БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

22 сакавіка 1994 г.
Аўторак
№ 31(13748)
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*




130 гадоў прамінула, як узышоў на эшафот Кастусь Каліноўскі — рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання 1863—64 гг. на Беларусі і Літве.

Вінцэнт Канстанцін (сын Сымона) Каліноўскі — наш нацыянальны герой. Нарадзіўся ён у шляхецкай сям'і ў Мастаўлянах Гродзенскага павета 21 студзеня 1838 года. Вучыўся ў Свіслачы, Маскве, Пецярбургу. У 1861 годзе вярнуўся ў Беларусь, дзе ўжо спела паўстанне супраць царскага самаўладства. У 1862—63 гадах выдаваў першую беларускую нелегальную газету "Мужыцкая праўда". Яська-гаспадар з-пад Вільні (псеўданім К. Каліноўскага) заклікаў да змагання за нацыянальную і сацыяльную волю, за вяртанне бацькоўскай веры — уніі, за незалежнасць нашае зямлі ад Польшчы і Расіі.

Паўстанне было жорстка задушана. Пакарана смерцю 128, выслана на катаргу — 853, на пасяленне ў Сібір — 504 чалавекі. Многія населеныя пункты былі спалены.

К. Каліноўскага арыштавалі ў віленскіх Святаянскіх мурах 10 лютага 1864 года. А 22 сакавіка ён быў публічна павешаны на плошчы Лукішкі, яго цела закапалі на Замкавай гары ў Вільні.

Захаваўся духоўны запавет К. Каліноўскага — "Пісьмо з-пад шыбеніцы", яго развітальныя вершы.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Ад перагавораў – да справы

*У Мінску завяршыўся чарговы раунд беларуска–амерыканскіх перагавораў на ўзроўні міністэрстваў абароны.*

На працягу тыдня напружана працавалі дэлегацыі экспертаў, якія ўзначальвалі з беларускага боку першы намеснік міністра абароны рэспублікі Аляксандр Тушынскі, а з амерыканскага — менеджэр праграмы па рэалізацыі міждзяржаўнага пагаднення аб аднаўленні навакольнага асяроддзя Вільям Мун. Яны абмяркоўвалі і адпрацоўвалі ў дэталях падыходы і сродкі ажыццяўлення праекта рэкультывацыі былых ракетных ядзерных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі, якія да гэтага часу з'яўляюцца пагрозай для навакольнага асяроддзя. У прыватнасці, амерыканцы разам з вядучымі спецыялістамі ўзброеных сіл нашай рэспублікі агледзелі і папярэдне абследавалі стан затопленых шахт ядзерных ракет у Пастаўскім раёне.

### Не застануцца ўбаку

*Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь палічыў немагчымым знаходзіцца ў баку ад палітычнай барацьбы. Такое рашэнне прынята на праведзеным першым пасяджэнні новага саставу савета гэтай арганізацыі.*

У бліжэйшыя дні савет выступіць з заявай "Аб палітыка-прававой і эканамічнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

**БЕЛІНФАРМ.**

### Граф Прушынскі робіць ход "Е2–Е4"

*У падземным пераходзе Метрапалітэна атрымаў з рук ветлівага чалавека аркуш з партрэтам графа Аляксандра Прушынскага пад загалоўкам "Першы кандыдат у прэзідэнты".*

Здаецца, пакуль парламентарыі спрачаліся аб правілах правядзення першых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, Аляксандр Ксавер'евіч, як сапраўдны гросмайстар, вырашыў зрабіць дэбютны ход у складанай партыі выбарчай кампаніі. І тут можна толькі пазайздросціць яго аператыўнасці. У лістку падкрэсліваецца, што з беларускай эміграцыі граф першым вярнуўся на радзіму. А Прушынскі прапаноўвае сваю кандыдатуру на высокую пасаду невыпадкова — ён мае канкрэтную праграму эканамічнага і культурнага адраджэння Беларусі, пабудаваную на багатым вопыце паспяховай прадпрымальніцкай дзейнасці, глыбокім веданні нацыянальных абставін і арыгінальным падыходзе да вырашэння дзяржаўнага крызісу.

Дарэчы, на адваротным баку аркуша змяшчаюцца і тэзісы з перадвыбарчай праграмы графа Прушынскага.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Электрычкі таксама "паехалі"

*Самым танным відам транспарту ў рэспубліцы пакуль былі электрычкі. Але і яны, відаць, не жадаюць адставаць ад павальнага росту цэн.*

Так, з 20 сакавіка цэны на праезд у электрычках выраслі адразу ў два разы. Але, як паведамілі ва Упраўленні беларускай чыгункі, гэты від транспарту ўсё роўна застаецца пакуль што стратным. Так што трымайцеся, спадары дачнікі, рыхтуйце не толькі слоікі для кампотаў, але і тоўстыя кашалькі.

**А.СЦЯПАНАЎ.**

### Дзе выйсце з крызісу?

*Адбылося пасяджэнне аргкамітэта беларуска–польскага навукова–практычнага семінара "Шляхі выхаду з эканамічнага крызісу дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы".*

Гэты семінар адбудзецца 27 сакавіка ў актавай зале Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра. Галоўнай падзеяй семінара будзе даклад аўтара так званай польскай рэформы прафесара Лешака Бальцаровіча. З дакладамі выступяць таксама старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Станіслаў Багданкевіч, вядомыя беларускія эканамісты Іван Лемяшэўскі і Уладзімір Кулажанка. Затым адбудзецца дыскусія з удзелам беларускіх і польскіх навукоўцаў і прадпрымальнікаў.

Чытачоў "Чырвонай змены", напэўна, зацікавіць, а як жа трапіць на семінар. Адкажам стрымана: актавая зала разлічана на 150 месцаў ды і абмеркаванне навукова-эканамічных праблем не для шырокай публікі. Калі ўсё ж хтосьці сур'ёзна пажадае навучыцца чаму-небудзь на семінары, таму раім пазваніць у Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі па тэлефонах 21-35-03, 76-86-70.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Творчая сталасць. Якая яна?

*Учора ў Белдзяржфілармоніі адбыўся аўтарскі вечар заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь кампазітара Валерыя Іванова. Дарэчы, ён з'яўляецца членам рэдкалегіі нашай газеты.*

На яго думку, у жыцці творчай асобы надыходзіць момант, калі неабходна праверыць сябе на прафесіянальную прыгоднасць. Таму вось гэты вечар і з'явіўся своеасаблівым экзаменам на творчую сталасць, які пацвердзіў правільнасць шляху, што выбраў беларускі кампазітар.

Валерый Іваноў больш вядомы шырокай аўдыторыі, безумоўна, як стваральнік папулярных песень. Але на яго рахунку — шмат твораў сімфанічных і для аркестра народных інструментаў, а таксама для кіно і тэатра.

Сааўтар многіх песень Іванова Уладзімір Някляеў лічыць яго "кампазітарам ад Бога". Аднаго разу паэт заўважыў, што "можа знешне ён і прайграе ў канкурэнцыі з больш спрытнымі і мітуслівымі, аднак піша сапраўдную музыку, арыгінальную, адметную толькі яго ўласцівым талентам і тою якасцю, якую найбольш дакладна, бадай, можна вызначыць як інтэлігентнасць".

**Ірына ШУКЕВІЧ.**

### "Сонечныя вітаміны" атрымалі прапіску

*Міністэрства аховы здароўя рэспублікі дало пуцёўку ў "жыццё" новаму аздараўленчаму безалкагольнаму напою з заманлівай і прывабнай назвай "СанВіта", што азначае "Сонечныя вітаміны".*

Яго аснову складае цэлы букет натуральных сокаў з апельсіна, мандарына і лімона. Усё гэта пастаўляецца ў Мінск з паўднёваамерыканскага штата Фларыда.

У сталіцу Беларусі дастаўлена вітамінная сыравіны з цытрусавых амаль на паўтара мільёна літраў гэтага гаючага напою.

"СанВіта" вызначаецца не толькі водарам, але і тым, што ў ім знаходзіцца ў неабходнай для арганізма дазіроўцы той набор вітамінаў, бялку, якія станоўча ўздзейнічае на імунную сістэму чалавека. Ён вельмі карысны і дзецям, і дарослым. Паводле ацэнкі спецыялістаў, напой аказвае таксама антырадыяцыйнае ўздзеянне, якое так неабходна жыхарам Беларусі.

Першая партыя напою "СанВіта" паступіла ўжо ў гандлёвую сетку Мінска, а хутка яго шлях праляжа і ў самыя розныя куткі нашай рэспублікі.

**Міхаіл ЛІБІНТАЎ.**

### З юбілеем!

*Нашаму калегу Давіду Саламонавічу Пінхасіку споўнілася 80 гадоў. Свой лёс з "Чырвонай зменай" ён звязаў у 1933 годзе.*

Разам са сваімі сябрамі — чырваназменаўцамі старэйшага пакалення прымаў удзел у стварэнні рамантычнай і суровай гісторыі краіны, пра якую сённяшнія юныя чытачы маюць зусім малыя звесткі. Пра тыя далёкія журналісцкія дні Давід Саламонавіч успамінаў летась на старонках нашай газеты.

Мы віншуем юбіляра са слаўнай датай і зычым яму шчаслівага і доўгага жыцця.

**Чырваназменаўцы.**

**Курсы валют на 21 сакавіка:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 12000 | 12480 | 7100 | 7380 |
| "Прыор" | 11500 | 12000 | 6800 | 7110 |
| "Пошук" | 12000 | 12400 | 7000 | 7200 |

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**



Мікалай ЛАРКОВІЧ, член рэдкалегіі газеты:

## "Час сеяць хлеб, а не толькі гаварыць аб ім"

*Цяжкі старшынёўскі хлеб. Усяго прыходзілася паспытаць і Мікалаю Мікалаевічу Ларковічу, дырэктару племзавода "Леніна", Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Сёння наш карэспандэнт задаў Мікалаю Мікалаевічу па тэлефоне некалькі пытанняў.*

**— Вясна. Не за гарамі час сяўбы. Як адчувае сябе сёння кіраўнік гаспадаркі? Чым жыве, з чаго пачынае працоўны дзень?**

— Шукаем грошы. Колькі рэалізавана прадукцыі, што на падыходзе, якія рэзервы. Настаў такі час, калі запас у нас ніхто не трымае. Інфляцыя паядае амаль усё, толькі крыху прамарудзь. Сапраўды - праблем мора. Тых датацый, якія выдзеліла дзяржава па льготных крэдытах, вёсцы, пэўна, не хопіць, таму і круцімся, каб нешта зэканоміць, прыкупіць. Не перабольшу, калі скажу, што сёння кіраўнікі гаспадарак сталі падобнымі больш на камерсантаў. Нават іншы раз прыкра, нyёмка, як цябе джынсавыя хлопчыкі рабуюць, нажываюць на сялянах, гэтых гаротніках, грошы. У нас проста няма часу займацца камерцыяй, а вымушаны. Але нават у гэтым тлуме не разгубіліся, справы не такія ўжо і дрэнныя. Калі, напрыклад, надоі ў мінулым годзе склалі тры тысячы кілаграмаў на карову, то ў гэтым - амаль каля пяці тысяч. Што датычыць сяўбы - пасеем. Штаны, як кажуць, знімем, а пасеем. Палітыка палітыкай. Пра хлеб менш гаварыць трэба, а рабіць справу.

**— Племзавод «Леніна» на мяжы з Расіяй. Ці не шкодзіць гэтае суседства гаспадарцы, тым больш, што там жывуць больш заможна?**

— Якое "больш заможна". Там у агульным эканоміка мацнейшая, больш стабільная, а жывуць, я б сказаў, лепей у нас. Нас не падзеліць ніякая мяжа. Наша гаспадарка, не пабаюся гэтага сказаць, даволі моцная, і гэта дае магчымасць беларускім "зайцам" пераскокваць праз мяжу. Я маю на ўвазе пастаўкі нашай прадукцыі ў Расію, абмен на тое, што нас цікавіць, — тэхніку, запчасткі, угнаенні і г.д. У гэтым выпадку гаспадарцы лягчэй. Яшчэ ніхто з племзавода не пераехаў у Расію, дома больш утульна, нават калі тады-сяды і прыцісне.

**- Чым прыходзіцца ўтрымліваць, асабліва моладзь, тым больш, што як Вы сказалі, сёння — час бізнесу?**

- Бізнес, асабліва такі, як у нас, — гэта не бізнес. А ўсё ж мы прывыклі да больш грунтоўнага, гарантаванага. Ніхто нікога не трымае. Ды й моладзь сама застаецца. Дом культуры, амбулаторыя, магазіны, рэстаран, Дом быту, нават гасцініца - гэта ўсё ў нас. Гэта мы пабудавалі не чорту лысаму, прабачце, а сабе. Самі і жывём, больш таго, будуем жыллё. У мінулым годзе здалі 8 кватэр, у гэтым мяркуем 2і. І гэта ў той час, калі прайшоў абвал эканомікі, тупіковая перабудова. Калі б не яна, мы б ніколі не бралі ў дзяржавы пазыку. Ды і так, думаю, прарвёмся.

**- Дванаццаць год у адной гаспадарцы, племзаводзе ie «Леніна», - гэта не мала. Зараз многае можна пачуць аб кіраўніках і адносінах да калгасаў і саўгасаў. Былы спікер нашага парламента Станіслаў Шушкевіч нават абазваў «чырвонымі панамі». Хто Вы на самай справе: гаспадар ці пан?**

- Так, гэта сапраўды было, я памятаю. Пэўна, гэта вялікая абраза ўсім старшыням і дырэктарам. Той, хто гаварыў, на маю думку, не меў нават уяўлення аб сельскай гаспадарцы. І вельмі прыкра, што гэтыя словы сказаў на той час галава нашай дзяржавы. Тым больш, што ён быў у нас, і тое, што мы робім, яму спадабалася. Час расставіць на свае месцы ўсё, зараз трэба рабіць справу, зямля чакаць не будзе.

Зноў пра зямлю. Няхай бяруць людзі. У мінулым годзе мы далі на кожны двор па гектару. Ну і што? Праблема з тэхнікай, угнаеннямі, насеннем, уборкай. І мы ідзём насустрач. Восенню сіламі нашай зернесушылкі насушылі больш як 200 тон збожжа прыватнікаў, а так было б пагноена. Я не супраць фермерства, але пакажыце сёння мне ў рэспубліцы таго, хто б цвёрда стаў на ногі. Зноў жа, патрэбен час, каб спачатку справіцца хаця б з адным гектарам, а потым ужо і з дзесяццю. А, па-другое, племзавод "Леніна" з'яўляецца вядучай гаспадаркай рэспублікі па вырошчванню беларускай чорна-рабай пароды свіней, прыбаўленне ў вазе якіх у суткі дасягае больш як 70 грамаў. Нашымі паслугамі па развядзенню гэтай пароды карыстаюцца многія гаспадаркі не толькі Беларусі, шмат заявак маем сёння, і жадаючыя могуць таксама звярнуцца - дапаможам. Гэта ж цэлая навука. Дык што іх распіхаць па хлеўчуках — загіне ўсё на корані, я ўпэўнены. Сёння нашай дзяржаве патрэбна разумная рука гаспадара, якая б умела распарадзілася набытым, зробленым. Загубіць яго - шмат часу не трэба.

**— І апошняе. Вы не стаміліся?**

— Стаміўся. Але і спыніцца не магу. Паспрабуй спыніць на поўным скаку каня - сэрца можа лопнуць. Так і ў нас, у старшынь і дырэктараў гаспадарак. Мы ўпрагліся і вязём, толькі, зноў жа паўтаруся, палітыка дзяржавы павінна быць разумнай. Дапамагайце. І прэса ў гэтым — добры памочнік. Разанулі пра паноў, разнеслі, раструбілі — а толку? Слова шмат што значыць і несці яго павінны асцярожна.

**— Дзякуй Вам за размову.**

— І вам, і "Чырвонай змене", што не забываеце пра нас. Быць дабру. І ў вас, і ў нас.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар Я.ЯСЭПКІН.*

### "Суперчэннэл"

#### Гуманітарныя канвоі

*У Маглай, горад у Босніі–Герцагавіне, працягваюць паступаць гуманітарныя грузы.*

Баснійскія сербы далі згоду на ўвоз у Маглай другога гуманітарнага канвою. Першы прыбыў сюды ў нядзелю, другі, з прадуктамі і медыкаментамі, таксама на падыходзе. Становішча 100 тысяч мясцовых жыхароў лічыцца крытычным.

#### Землетрасенне ў Лос–Анжэлесе

*У Лос–Анжэлесе адбылося землетрасенне, сіла якога дасягала 5,3 бала па шкале Рыхтэра.*

Па шчасцю, у выніку землетрасення не было ахвяр, аднак яно прынесла вялікі матэрыяльны ўрон. Эпіцэнтр знаходзіўся ў 17 кіламетрах на паўночны захад ад Лос-Анжэлеса. Больш за ўсё пацярпелі аўтамагістралі, якія былі разбураны яшчэ ў студзені пры аналагічным землетрасенні. Потым яны былі адноўлены.

### "Еўраньюс"

#### Беспарадкі ў ходзе дэманстрацый

*Многа людзей паранена ў ходзе дэманстрацыі ў нямецкім горадзе Вісбадэне. Яе ўдзельнікі — прадстаўнікі і прыхільнікі рабочай партыі Курдыстана.*

Паліцыя затрымала некалькі дзесяткаў курдаў. Падобныя дэманстрацыі ў падтрымку забароненай у Германіі партыі адбыліся таксама ў Берліне і Аўгсбургу. У іх выніку 19 чалавек паранена, 24 — затрымана паліцыяй.

#### Бен Алі няма альтэрнатывы

*Як стала вядома з афіцыйных крыніц, прэзідэнт Туніса Бен Алі набраў у ходзе ўсеагульных нядзельных выбараў да 99 працэнтаў галасоў.*

Ён быў адзіным кандыдатам на прэзідэнцкую пасаду. Канстытуцыйны дэмакратычны сход (партыя прэзідэнта) забяспечыў сабе амаль усе месцы ў парламенце. Кожная з шасці апазіцыйных партый атрымала не больш чым 1 працэнт галасоў выбаршчыкаў. Гэта дапаможа ім усім разам заняць у парламенце 19 месцаў.

### "TV-5"

#### Забойства італьянскіх тэлежурналістаў

*Усю Італію ўзрушыла забойства двух італьянскіх тэлежурналістаў у Самалі.*

Загінулі тэлежурналістка і аператар, якія рыхтавалі адсюль рэпартажы па заданню сваёй рэдакцыі.

#### Ахвяры ў Егіпце

*У егіпецкім горадзе Абу Ціг паліцыя забіла двух ісламскіх фундаменталістаў.*

Перад гэтым апошнія забілі ў другім егіпецкім горадзе Зідфа 5 паліцэйскіх. Яшчэ 6 былі паранены.

#### Цяжкія перамовы

*Пасля апублікавання рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН, у якой выкладаліся яго адносіны да трагедыі ў Хеброне, ізраільскія і палесцінскія прадстаўнікі сустрэліся ў нядзелю вечарам на чарговым раундзе перамоў па ўладкаванню становішча на Блізкім Усходзе.*

Ізраіль прыняў абавязацельства гарантаваць бяспеку палесцінцаў на акупіраваных тэрыторыях і ў сектары ГАЗА. Аднак лідэр АВП Я.Арафат на сустрэчы не прысутнічаў. Да таго ж, дадатковыя цяжкасці ўзніклі ў сувязі з чарговымі сутыкненнямі ў Ізраілі ў нядзелю.

### "Уорлднэт"

#### Турэцкія ўлады супраць

*Турэцкія ўлады часова затрымалі каля 100 іншаземцаў. Ім забаронены ўезд на тэрыторыю, дзе пражываюць курды.*

Прадстаўнікі правых груповак хацелі б адзначыць там турэцкі новы год і паназіраць за тым, як праходзяць камунальныя выбары.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



## "Спіс Шындлера" – у Германіі

*У Германіі адбыўся паказ мастацкага фільма амерыканскага рэжысёра Стывена Спілберга "Спіс Шындлера".*

Фільм закранае праблему знішчэння яўрэяў у гады другой сусветнай вайны. Стваральнікі стужкі ставяць пытанне, на якое хацелі б атрымаць адказ: "Чаму немцы спакойна глядзелі на тое, што ў час вайны было забіта 6 мільёнаў яўрэяў?" Дарэчы, новы фільм С.Спілберга — адзін з найбольш верагодных прэтэндэнтаў на атрыманне Оскара ў гэтым годзе.

## Працэс будзе доўгім

*Пачатак судовага працэсу над былым памагатым нацыстаў Полем Тув'е паказаў, што да яго заканчэння пройдзе шмат часу.*

Адвакат Тув'е заявіў у Версальскім палацы правасуддзя, што большая палова прысутных у зале перашкаджае працэсу. Суддзя вымушаны быў выдаліць публіку з залы пасяджэння. Потым абаронцы П.Тув'е прывялі аргумент, што грамадзянская справа страчвае сваю юрыдычную сілу пасля 30 гадоў з моманту злачынства. Такім чынам, 29 чэрвеня 1974 года ўсе абвінавачванні супраць Тув'е страцілі сэнс. Аднак суд пакуль не прыняў довады абароны былога апалчэнца.

Працэс выклікаў вялікую цікавасць сродкаў масавай інфармацыі. Канал FR-3 атрымаў права на пастаянную трансляцыю пасяджэнняў. Каля 110 журналістаў з краін Еўропы, ЗША і Ізраіля асвятляюць працэс у друку.

## Моніка Селеш стала грамадзянкай ЗША

*Былая тэнісістка свету нумар адзін Моніка Селеш, якая не выходзіла на корт больш чым год, з таго моманту, як на яе напаў звар'яцелы глядач, стала грамадзянкай ЗША.*

У інтэрв'ю журналістам яна заявіла, што гэтае рашэнне не з'яўляецца палітычна матываваным, і што яна, як і яе сям'я (усе венгры па паходжанню), мае намер вельмі часта наведваць радзіму.

## Ф.Гансалес захоўвае пазіцыі

*Іспанскі прэм'ер-міністр Філіп Гансалес пераабраны на пасаду Генеральнага сакратара сацыялістычнай рабочай партыі Іспаніі.*

33-ці з'езд партыі сацыялістаў прагаласаваў за гэтае рашэнне. Гансалес з'яўляецца членам партыі з 1974 года. Вось ужо 11 гадоў ён узначальвае Іспанскі ўрад.

## Маці М.Джэксана ўпэўнена ў яго невінаватасці

*Маці Майкла Джэксана паўстала перад журы прысяжных, даючы паказанні па абвінавачванню свайго сына ў спакушэнні малалетніх.*

Катарына Джэксан прыбыла ў суд на белым лімузіне і знаходзілася ў будынку ля гадзіны. Выходзячы з яго, маці поп-зоркі сказала журналістам: "Да таго, як зайсці сюды, я была абсалютна ўпэўнена ў невінаватасці Майкла і цяпер, пасля сваіх паказанняў, адчуваю тое ж самае".

## Упершыню за межамі Расіі

*Іконы, розныя каштоўнасці, якія не маюць цаны, вывезены за межы Расіі.*

Яны сталі асновай экспазіцыі выставы, якая адкрылася ў Італіі, у 30 кіламетрах ад Турына.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

Вядучая рубрыкі Святлана КУЛІКОВА

Тэл. 68-29-26

# Кампенсацыя гарантавана

*"Ці мае права мой сын як воін-інтэрнацыяналіст, інвалід I групы, на грашовую кампенсацыю?*

**З.САМАХВАЛ, г.Мінск".**

Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч падпісаў урадавую пастанову аб выплаце за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту аднаразовай грашовай кампенсацыі сем'ям ваеннаслужачых або ваеннаабавязаных, якія загінулі (памерлі) у мірны час пры выкананні абавязкаў ваеннай службы (у тым ліку на зборах) у перыяд з 3 верасня 1945 г. да 2 снежня 1992 г. у размеры 250 мінімальных заработных плат (МЗП). Выплата будзе праводзіцца наступным чынам: у 1994 годзе — 100, у 1995 годзе — 150 мінімальных зарплат.

Пастановай таксама прадугледжана выплата кампенсацый воінам-інтэрнацыяналістам, уключаючы тых, якія знаходзяцца на абавязковай ваеннай службе і атрымалі раненні, кантузіі, калецтвы: інвалідам I групы — у размеры 100 мінімальных зарплат, інвалідам II групы — 75, інвалідам III групы — 50. Тым, хто атрымаў цяжкія раненні (кантузіі) і не мае групы інваліднасці, — 10, тым, хто атрымаў лёгкія раненні (кантузіі) і не мае групы інваліднасці, — 5 мінімальных зарплат.

Выплата грашовай кампенсацыі ажыццяўляецца ваеннымі камісарыятамі па месцы пражывання або прызыву ваеннаслужачых, а таксама Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. Размер кампенсацыі выплачваецца з прымяненнем мінімальнай заработнай платы на момант яе выплаты.

Кампенсацыя не выплачваецца тым сем'ям і воінам-інтэрнацыяналістам, якія атрымалі адпаведную выплату пасля 1 студзеня 1991 г., згодна з пастановай Савета Міністраў СССР ад 30 снежня 1990 г. № 1393 "Аб дзяржаўным абавязковым асабістым страхаванні ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў", а таксама ў выпадках, калі гібель (смерць), раненне, кантузія, калецтва ваеннаслужачых або ваеннаабавязаных (на зборах) насталі ў выніку ўчынення імі проціпраўных дзеянняў або з прычыны алкагольнага, наркатычнага ці таксічнага ап'янення.

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.01.94 г. № 40 "Аб выплаце аднаразовай грашовай кампенсацыі сем'ям ваеннаслужачых, якія загінулі (памерлі) у мірны час пры выкананні абавязкаў ваеннай службы, воінам-інтэрнацыяналістам у сувязі з атрыманымі імі раненнямі, кантузіяй, калецтвам" уводзіцца ў дзеянне з 1 сакавіка бягучага года.

# Пакаранне ў дадатак?

*"Раскажыце, калі ласка, якія віды пакарання існуюць сёння ў Крымінальным кодэксе?*

**Андрэй Г., Магілёўскі раён".**

Зараз, згодна з артыкулам 21 КК, дзейнічае наступная сістэма пакаранняў: пазбаўленне волі, ссылка, высылка, папраўчыя работы без пазбаўлення волі, пазбаўленне права займаць пэўныя пасады альбо займацца пэўнай дзейнасцю, штраф, звальненне з пасады, грамадскае ганьбаванне. Да ваеннаслужачых тэрміновай службы можа ўжывацца пакаранне ў выглядзе накіравання ў дысцыплінарны батальён.

Апрача асноўных пакаранняў, да асуджаных могуць прымяняцца дадатковыя пакаранні: канфіскацыя маёмасці, пазбаўленне вайсковага звання. Высылка, ссылка, пазбаўленне права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю, штраф і звальненне з пасады могуць ужывацца як асноўныя і як дадатковыя пакаранні. У парадку выключнай меры пакарання за асабліва цяжкія злачынствы, спецыяльна агавораныя ў законе, прымяняецца пакаранне смерцю.

# "Вымушаныя" пенсіянеры — без пенсій

*"Ходзяць чуткі, што з 1 красавіка працуючым пенсіянерам не будзе выплачвацца пенсія. Ці так гэта?*

**Павел ЦАРЫК, г.Мінск".**

На пытанне адказвае вядучы інспектар упраўлення пенсій і грашовых дапамог Міністэрства сацыяльнага забеспячэння Лідзія Кухта.

— Гэтыя чуткі маюць пад сабой падставу. Але гэта датычыць далёка не ўсіх. Не будуць атрымліваць пенсію толькі тыя працуючыя пенсіянеры, якія пайшлі на пенсію ў адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь "Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь". Дакладней, людзі, якія пайшлі на пенсію на 2 гады раней — мужчыны ў 58 гадоў, жанчыны ў 53, — у сувязі з ліквідаваннем установы ці арганізацыі, і тыя, хто пайшоў на пенсію на год раней у выпадку скарачэння штатаў.

Страціўшы працу, "вымушаныя" пенсіянеры, зарэгістраваныя ў Цэнтры занятасці насельніцтва, атрымліваюць іншую працу і працягваюць сваю дзейнасць ці статус беспрацоўнага і грашовую дапамогу. Вось менавіта такія працуючыя пенсіянеры не будуць атрымліваць пенсію. Але толькі да таго часу, пакуль не дасягнуць звычайнага пенсіённага ўзросту.

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# Хто вінаваты?

☐ **Мікола КАПЫЛОВІЧ**

Завея ўсхадзілася ноччу, сярдзіта віхурылася ўвесь дзень, а пад вечар, нібы стаміўшыся, неяк адразу сціхла.

Я выйшаў на вуліцу, калі ветру ўжо амаль не было.

Цемень ціснула на плечы, і таму я хутчэй павярнуў назад, да дачы суседа, у якой начаваў. З дарогі хутчэй угадваліся, чым бачыліся постаці бяроз, ды на тым баку ракі, на самым узгорку, калі прыгледзецца, ледзь сляпілася агеньчыкам акно. "Ноч для бяды", — чамусьці падумалася і, магчыма, таму крык хлопчыка: "Мамачка!", які данёсся да маіх вушэй аднекуль здалёку, я ўспрыняў як лагічны працяг сваіх уяўленняў.

Не магу чуць дзіцячага плачу, і таму пайшоў хутчэй. Але голас тут жа мяне дагнаў. Пранізліва-надрыўны, з невыносным болем, ён ірваў душу.

І я спыніўся, не ведаючы, што рабіць. "Ды што ж там такое? Можа, малы заблудзіўся?". Хвіліна цішыні — і зноў крык. На зрыве, на нейкай апошняй ноце, за якою — вечная цішыня, калі ніхто і нішто не можа дапамагчы.

— Ма-ма-а!

Калі не чуе яна, дык я проста абавязаны кінуцца да хлапчаняці на дапамогу!

З дрыжыкамі ў сэрцы, адчуваючы, як варушацца на галаве валасы, я крыкнуў, не пазнаючы свайго голасу:

— Я чую! Я зараз!

І кінуўся з усіх ног у бок лесу.

Вось, нарэшце, і пасёлак ці, лепш сказаць, вясковы хутар. Я на імгненне спыніўся, прыслухаўся:

— Дзе ты?

Ніякага адказу.

Я прайшоў, а дакладней прабег, кульгаючы на адну нагу, да першых хат хутара, але на дарозе нікога не сустрэў, не ўбачыў і, пастаяўшы яшчэ некалькі хвілін, не спяшаючыся пакрочыў назад.

Ішоў і амаль ці не плакаў сам, усё чамусьці здавалася, што гэтым не закончылася тое, што было ў лесе. Голас хлопчыка ўсё гучаў ува мне: "Мамачка! Мамачка!".

"Божа! — думаў я. — Ды няўжо ж ёсць нейкія дзіцячыя грахі, за якія трэба караць такімі пакутамі?".

...Раніцай у вясковай краме, калі стаяў у чарзе, пачуў канец гэтай гісторыі. Адзінокая маці маленькага хлопчыка тры месяцы назад была звольнена з работы. Спрабавала ўладкавацца хоць куды, але так і не змагла. Тыдзень назад яна прадала на кірмашы нейкую сукенку са свайго беднага гардэроба. На схаваныя грошы выпадкова натрапіў шасцігадовы сын. Раней ён ніколі нічога не браў без дазволу, але на гэты раз не вытрымаў, узяў і купіў вось у гэтай самай краме паўкіло цукерак, якіх даўно не бачыў. Сам паеў і пакінуў трохі маме.



Увечары тая спахапілася: дзе грошы?

Ён прызнаўся адразу. І як браў грошы, і як купляў цукеркі, якія вельмі рэдка сюды, у краму, прывозяць.

Маці чамусьці спадзявалася, што сын жартуе, што грошы яшчэ цэлыя. І толькі калі ў хлеўчуку малы выцягнуў з-пад скрынкі пакет са жменькаю цукерак, яна кінулася да сына і пачала яго біць. Потым пабегла дамоў, праклінаючы сябе:

— Не! Чым так жыць, дык лепш...

Ён ляцеў за маці, спатыкаючыся на снезе, быццам ведаў наперад, што будзе з ёю, і спрабаваў яе ўтрымаць.

І не змог.

Ноччу, калі сын заснуў, маці паднялася, не апранаючыся, выйшла за дзверы і ў тым жа хлеўчуку накінула на сябе пятлю. Адкуль было ведаць ёй, загнанай жыццём, пастаўленай ім ужо не на край, а за край, што дзіцячая сляза — не мера самаабароны дзіцяці, а мера абароны дзіцем нас у гэтым жорсткім свеце.

Я выйшаў з чаргі за два чалавекі ад прылаўка, зразумеўшы раптам, што не змагу есці гэтыя цукеркі...

# Ляці, птушка!

Прачытала не так даўно ў "Чырвонцы" артыкул "Птушка ў клетцы" і хачу звярнуцца адначасова да Лілі і да яе бацькоў.

Так, у мяне вельмі маленькі жыццёвы вопыт, шмат чаго я не бачыла, але свае меркаванні, думаю, выказаць магу. А ўпэўнена я ў адным. Вы, клапатлівыя маці і тата, павінны радавацца, што ваша дачка не скарылася перад цяжкай хваробай, а хоча жыць, кахаць, спадзявацца на лепшае. Я сама ўжо трэці год шэфствую над інвалідамі, шмат пабачыла і зрабіла вывад: такіх, як Ліля, настойлівых і нераўнадушных, на жаль, не вельмі многа.

Напэўна, Ліліны бацькі, як і многія іншыя, мараць аб дачушкінай пяшчоце, наогул аб тым, каб у адносінах з дзецьмі былі разуменне і лад... А ці не баяцца яны сваёю празмернай апекаю усё перакрэсліць?

Даруйце мне, але я першы раз бачу бацькоў, жадаючых... страціць сваё дзіця. Мець дачку ці сына-інваліда — цяжкае гора. Але тройчы цяжкае гора — быць інвалідам у душы. Ліля не з такіх... "Нешта разаб'е, парве...". Няхай!

У мяне бацькі таксама не мільянеры, не дырэктары камерцыйных фірм, ды і мая зарплата невялікая. Але самая каштоўная для мяне рэч — наша жыццё. Гэта сапраўды шчасце — хацець жыць і змагацца з хваробаю...

Ліля, я звяртаюся да цябе! Ты правільна жывеш і добра ўсё разумееш. Самая цяжкая здрада — здрада самому сабе. Будзь сапраўднай, натуральнай ва ўсім: ва ўчынках, поглядах, адносінах з людзьмі. Хочаш штосьці зрабіць — рабі як можаш. Мы з табою абавязкова сустрэнемся!..

**Святлана ЧАРНАЯ.**

# "Белая варона", або Працяг даўняй размовы

☐ **Ларыса ШУВАЛАВА**

Артыкул "Белая варона", змешчаны ў "ЧЗ" 12 лютага, падштурхнуў мяне да працягу размовы аб тым, што ж гэта за з'ява — "белыя вароны" ў нашым грамадстве? Чаму яны такія і ці патрэбны звычайным, "нармальным" людзям?

Кажуць, што кожны чалавек цікавы, трэба толькі крыху больш уважліва глядзець на яго, слухаць яго. Глядзець, слухаць, сачыць — гэта не адны толькі журналісцкія хітрыкі. Гэта патрэбнасць усіх неабыякавых людзей. Бо часцей за ўсё менавіта яны жывуць "не як усе".

"Жыць як усе" — значыць стаяць у бясконцай чарзе па штонебудзь, берагчы свае грошы, клапаціцца пра сваё здароўе, баяцца зладзеяў і крыўдзіцеляў, хлусіць пра недахоп часу, калі хтосьці аб нечым папрасіў. А галоўнае — скардзіцца сябрам на тое, як цяжка жыць і якія мы ўсе дрэнныя...

... Мне патэлефанавала сяброўка і паведаміла: адзін чалавек хоча з табой пазнаёміцца. Канешне-канешне, я нічога не маю супраць. У сваю чаргу тэлефаную па нумару, пакінутаму сяброўкай, і вельмі хутка дамаўляюся з уладальнікам прыемнага барытона аб сустрэчы.

І вось сядзім адно насупраць аднаго, і чамусьці я, не бянтэжачыся, гляджу яму прама ў вочы. Маўчым абое. Потым раптоўна, як пасля стартавага выбуху, размова пачынаецца. Дакладней, не размова, а маналог. Вельмі ціхі: хочаш — слухай, хочаш — глядзі ў акно. Ён расказваў пра тое, як некалькі гадоў таму раптоўна (даволі ж часта гэтак бывае!) паламалася ўсё ягонае жыццё, калі трапіў у аварыю. І як марудна яго ставілі на ногі. Дакладней, ён сам сябе ставіў. Таму што гэткі шлях здольны прайсці толькі сам хворы.

Але не пра гэта я хацела гаварыць. Дзякуй Богу, і без мяне ёсць каму пісаць (і шмат пішуць ужо) пра людзей-пераможцаў — тых, хто не здаецца. І не гэта мяне здзівіла ў маім новым знаёмым.

Чым далей ён гаварыў, тым больш непакоіла думка: ці то чалавеку ўжо дужа дрэнна і няма куды ісці (хіба што тапіцца?), ці то перада мною проста псіхічна хворы, які не валодае сваімі пачуццямі. Можа, ён памыліўся, прыйшоўшы да мяне? Аднак гаварыць яму я не замінала.

Пакрысе гутарка перайшла на іншую тэму, і на мяне зірнулі разумныя, вострыя, мужныя вочы. Аднак гэта не былі вочы стомленага ад жыццёвых пакут чалавека. У іх свяціліся дабрыня і сумленне...

"Ну вось, — падумае чытач, — зноў яна пра дабрыню, сумленне! Дзе яны зараз, гэтыя якасці? Вось ідэалістка чортава...".

Усё яшчэ нічога не разумеючы, я запытала:

"Што прывяло вас да мяне?".

"Я не хачу, каб хтосьці прайшоў праз тое, праз што прайшоў я".

Сапраўды, ці многа знойдзецца людзей, што здольны пакутаваць ад таго, што пакутуе хтосьці іншы — не сябар, не знаёмы нават? Хто з вас можа вось гэтак проста прыйсці ў чужую кватэру і спытаць: "Вам дрэнна? Чым магу дапамагчы?".

Нават сярод маіх сяброў па няшчасцю, інвалідаў, зашмат людзей асцярожных, палахлівых, якія клапоцяцца толькі аб сабе. Вядома, акалічнасці бываюць розныя, многім з нас вельмі цяжка як фізічна, так і маральна парваць кола хваробы, пайсці да іншых людзей. Усё дзіва было для мяне ў тым, што я ні аднаго слова не сказала Анатолю (я назаву так гэтага чалавека) пра сваё жыццё. Скуль ён даведаўся, што менавіта мне трэба?

"Вам дрэнна"... Гэтыя словы часта выклікаюць абурэнне: каму якая справа! Нічога мне не трэба! Цяжка дапусціць кагосьці ў сваё сэрца, тым больш, што ганарлівасць замінае. Прывыклі, што нават калі просіш, рэдка хто адгукаецца задарма. І гэта лічыцца натуральным. Навокал — недавер і знявага. Усе жывуць "як усе"... І ўсе папярэджваюць адзін аднаго: "У жыцці зашмат расчараванняў!".

Развіталіся мы з Анатолем сябрамі. І я падумала: "А можа, хопіць расчараванняў?". Бо ў адзіноце чалавек (нават здаровы) не пражыве. Не пражыць доўга з агідай у сэрцы, не навучыць дабрыні дзяцей. Таму хочацца, каб хоць раз кожны з нас сустрэў на сваім шляху "белую ворану", якую нават жыццёвыя абставіны не перафарбавалі ў чорны колер. Няхай яны ўсюды і заўсёды застаюцца белымі.

*з гісторыі Беларусі*

# НАРОДНАЯ АДУКАЦЫЯ

ўтрымліваць школы. Не хапала сродкаў на гэтую справу і ў вясковых прыходах. Трэба ўлічваць і тое, што вясковае насельніцтва беларускіх губерняў жыло ў сваёй большасці ў невялікіх пасяленнях па некалькі двароў, якія да таго ж нярэдка знаходзіліся на значнай адлегласці адно ад аднаго. Таму невялікія школы граматы, якія не патрабавалі ад сялян значных грашовых і іншых затрат, успрымаліся імі лепш. У сваёй працы духавенства кіравалася тым, што пры суцэльнай непісьменнасці беларускага сялянства ўсялякая школа, нават калі яна і не вельмі дасканалая, ужо крок наперад.

Паступова царкоўныя школы займалі калі не вядучае, то даволі значнае месца ў сістэме народнай адукацыі. У цэлым па Расіі да 1900 г. сетка школ царкоўнага ведамства зраўнавалася з сеткаю школ міністэрства народнай асветы. Яна налічвала 42,6 тысячы з 1,6 мільёна вучнямі. Што да беларускіх губерняў, то царская палітыка, накіраваная на стварэнне тут сістэмы народнай адукацыі — рускай і праваслаўнай па характары — прывяла да таго, што царкоўныя школы занялі пераважнае месца. Так, у Мінскай губерні ў 1894 г. з 1680 пачатковых навучальных установў (не лічачы хедараў, талмуд-тораў, прыватных і казённых яўрэйскіх вучылішчаў) школы духоўнага ведамства складалі 1323, ці амаль 80 працэнтаў. Больш за 70 працэнтаў займалі ў тым жа годзе царкоўныя школы ў Віленскай губерні. Найбольш распаўсюджанымі яны былі ў Дзісненскім павеце — 93,9 працэнта, Вілейскім — 80,6 працэнта, Лідскім — 76,9 працэнта. Больш чым 80 працэнтаў ад усіх пачатковых школ займалі царкоўныя школы і ў Магілёўскай губерні.

Такім чынам, да канца XIX ст. народная адукацыя ў заходніх губернях знаходзілася ў значнай ступені ў руках праваслаўнага духавенства. Каталіцкія святары, як і іншыя прыватныя асобы польскага паходжання, практычна былі адхілены ад удзелу ў народнай адукацыі. Асобныя польскія школкі, што дзе-нідзе яшчэ працягвалі існаваць, былі аб'яўлены па-за законам. З красавіка 1892 г. былі "высочайше" зацверджаны часовыя правілы, згодна з якімі такія школкі аб'яўляліся тайнымі. За іх накладвалася спаганнне — штраф у суме 300 рублёў ці пазбаўленне волі да 3 месяцаў. 10 снежня 1892 г. па загаду імператара ўсе вучылішчы, што яшчэ захаваліся пры касцёлах, былі перададзены міністэрству народнай асветы на агульных падставах, з тым, "каб пры новым парадку кіравання засталіся правы рымска-каталіцкага духавенства назіраць за народнай адукацыяй юнакоў у казённых установах". Што да прыватных навучальных устаноў, то права адкрываць іх прадастаўлялася толькі "прыродным рускім або прыняўшым рускае падданства". Навучальны план зацвярджаўся папячыцелем вучэбнай акругі, у лік прадметаў абавязкова ўключаліся Закон Божы, руская мова, а там, дзе вывучалі гісторыю і геаграфію, — рускую гісторыю і геаграфію.

Страціўшы магчымасць займацца адукацыяй народа, а разам з тым і ў значнай ступені ўплываць на маладое пакаленне, каталіцкія святары забаранялі сваім вернікам адпраўляць дзяцей у царкоўнапрыходскія школы. У 1902 г. Віленскі рымска-каталіцкі епіскап звярнуўся да каталіцкага духавенства сваёй епархіі са спецыяльным цыркулярам, якім заклікаў духоўных асоб і вернікаў "словам і справай" абараняць святую веру ад царкоўнапрыходскіх школ і школ граматы. "Школы гэтыя, — адзначаў епіскап, — варожыя каталіцкай веры і па сваіх мэтах, праграмах выхоўваюць погляд на католікаў, як на ворагаў дзяржаўнасці".

Тым не менш, нейкая частка сялян (католікаў, прадстаўнікоў іншых веравызнанняў) аддавала сваіх дзяцей вучыцца ў праваслаўныя царкоўныя школы. Так, у 1894 г. у Мінскай губерні сярод вучняў царкоўнапрыходскіх школ і школ граматы праваслаўныя складалі 97,5 працэнта, католікі — 2,16 працэнта, пратэстанты — 0,04, магаметане — 1,01, яўрэі — 0,24 працэнта. У той жа час у народных вучылішчах католікі складалі 6,48 працэнта, пратэстанты — 0,27 працэнта.

Нязначнае месца, адпаведна невялікай колькасці вернікаў, сярод царкоўных школ займалі лютэранскія і рэфармацкія царкоўныя школы. Яны існавалі да канца 60-х гадоў пры цэрквах і малітоўных дамах гэтых веравызнанняў. Такія школы былі: у Вільні — 1, Гродзенскай губерні — 12, Віцебскай — 2. Настаўнікамі з'яўляліся кістэры і арганісты. Навучанне вялося (за малым выключэннем) на нямецкай мове. Большасць сярод гэтых школ складалі лютэранскія. Напрыклад, з 12 школ, што існавалі ў Гродзенскай губерні, 10 былі лютэранскія. З 839 вучняў гэтых школ 728 — немцы па свайму паходжанню, большасць якіх (706) захавалі сваю родную мову.

У 1868 г. была зроблена рэвізія лютэранскіх і рэфармацкіх школ. Камісія ўстанавіла, што лютэранскія і рэфармацкія школы ўтрымліваюцца на сродкі мясцовых таварыстваў і знаходзяцца ў падпарадкаванні пастараў. У Гродзенскай губерні, адзначала камісія, гэтыя школы знаходзіліся ў розных мясцовасцях і ўсе мелі чыста нямецкі характар. Толькі ў некаторых з іх у апошні час уведзена руская мова, але "за малым выключэннем, зусім беспаспяхова". Папячыцель Віленскай вучэбнай акругі заключыў, што "адчыняемыя не толькі без дазволу, але нават без ведама вучэбнага начальства, існуючы без усялякага кантролю з яго боку, з настаўнікамі іншаземцамі і з іншаземнымі падручнікамі, лютэранскія і рэфармацкія школы знаходзяцца ў прамой супярэчнасці з усёй сістэмай народнай адукацыі, што дзейнічае ў Віленскай вучэбнай акрузе". Было прызнана, што існаванне лютэранскіх і рэфармацкіх школ не мае законнага права: па законах Расійскай імперыі лютэранскае духавенства не магло адкрываць вучылішчы. Статут евангелічна-лютэранскай царквы прадугледжваў толькі падрыхтоўку моладзі да канфірмацыі на працягу 6 тыдняў. На самай справе школы працавалі круглы год і іх праграмы ўключалі ў сябе розныя прадметы, якія зусім не патрэбны былі для падрыхтоўкі да канфірмацыі.

У студзені 1869 г. па пагадненню паміж міністэрствамі ўнутраных спраў і народнай адукацыі лютэранскія і рэфармацкія школы былі пераведзены пад юрысдыкцыю Віленскай вучэбнай акругі. Карацей кажучы, перасталі існаваць, зліўшыся з народнымі вучылішчамі.

Але праблемы засталіся. І перш за ўсё, як вучыць дзяцей Закону Божаму. У лістападзе 1870 г. у міністэрства народнай асветы былі прадстаўлены правілы, распрацаваныя ў Віленскай вучэбнай акрузе пры ўдзеле прадстаўнікоў евангелічна-рэфармацкага і евангелічна-лютэранскага веравызнанняў, якія адносіліся да выкладання Закона Божага дзецям гэтых веравызнанняў у народных вучылішчах. Правілы заключаліся ў наступным: Закон Божы павінен быў выкладацца тры разы на тыдзень абавязкова ў памяшканні народных вучылішчаў. У першы год вучобы — на мясцовым дыялекце, у другі — на рускай мове з перакладам або тлумачэннямі на мясцовым дыялекце, у трэці — выключна на рускай мове. Законавучыцелямі маглі быць мясцовыя пастары або іншыя асобы з рускіх падданых. Акрамя выкладання Закона Божага, яны павінны былі вучыць дзяцей нямецкага паходжання чытаць і пісаць па-нямецку. Плаціць законавучыцелям павінны былі мясцовыя таварыствы.

Віленская евангелічна-рэфармацкая калегія накіравала пратэст міністру ўнутраных спраў, у якім адзначалася, што ўдзел пастара Кадара ў распрацоўцы гэтых правіл заключаўся толькі ў ягонай прысутнасці на адным з пасяджэнняў. І што ён, таксама як і прадстаўнік евангелічна-лютэранскага веравызнання Таферберг, галасаваў супраць выкладання Закона Божага на рускай мове. Бо гаворка ідзе аб тым, што ў дадзеным выпадку парушаецца галоўны прынцып пратэстантызму — навучанне Закону Божаму на мове самай зразумелай для кожнага. З такім жа пратэстам выступіла і евангелічна-лютэранская генеральная кансісторыя. Але пратэсты гэтыя не былі ўлічаны. Новыя правілы, што закранаді пытанні мовы навучання Закону Божаму іншаземных веравызнанняў, былі прыняты толькі ў 1906 г. Згодна з ім мова выбіралася па жаданню бацькоў вучняў ці іх апякуноў.

Нягледзячы на даволі хуткі рост на Беларусі пачатковых навучальных устаноў у парэформенны перыяд, значных якасных змяненняў у народнай адукацыі не адбылося. Усе яны — і царкоўныя, і свецкія — ахоплівалі зусім нязначную частку дзяцей школьнага ўзросту, на пачатку 80-х гадоў — каля 10 працэнтаў хлопчыкаў і 0,5 працэнта дзяўчынак. І праваслаўная, і каталіцкая канфесіі, кожная па-свойму, імкнуліся з дапамогай "адукацыі" ўтрымаць беларусаў пад сваім уплывам. Між двух агнёў прайшоў беларускі народ, выпакутаваў, збярог нацыянальныя звычкі, мову, культуру, высокую чалавечую годнасць. Наперадзе былі новыя выпрабаванні, але загаралася і заранка светлага дня, пашыраўся адраджэнскі рух, нараджалася інтэлігенцыя, што абуджала ў народзе самасвядомасць, прымнажала духоўныя набыткі, набліжала час узнаўлення дзяржаўнасці.

КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Прафесія — эксперт

***Памятаю, у адным з першых нумароў за гэты год газеты "На страже" прачытаў віншаванне шэрага супрацоўнікаў экспертна-крыміналістычных службаў у сувязі з іх узнагародай. Сярод узнагароджаных значыліся эксперты-біёлагі навукова-крыміналістычнага цэнтра МУС Сяргей Яўмененка і Аляксандр Шымко, зусім яшчэ маладыя хлопцы, практычна толькі пачынаючыя свой прафесійны шлях. Шлях пошуку, шлях адкрыццяў, шлях да ісціны, за якой — людскія лёсы, людскія жыцці...***

...Пераваліла ўжо на другую палову дажджлівага лета 1993 года. І хоць першае паўгоддзе прынесла некаторае паляпшэнне ў аператыўнай абстаноўцы, з сярэдзіны чэрвеня крымінальны барометр зноў стаў паказваць рэзкае ўзрастанне злачыннага націску. Прычым, сітуацыю асабліва ўскладняў рост злачынстваў, цяжкіх, дзёрзкіх, якія выклікаюць асаблівы грамадскі рэзананс, розныя чуткі...

21 ліпеня ў Першамайскім і Савецкім раёнах Мінска, у кантэйнерах для смецця былі знойдзены часткі расчлянёнага чалавечага цела. У тым, што гэта забойства, — сумненняў не было. Па дадзенаму факту ўзбуджана крымінальная справа, якую прыняла да вытворчасці пракуратура горада. Першае, што патрабавалася вызначыць — асобу забітага. Хутка гэтую задачу вырашылі. Неабходнай умовай раскрыцця злачынства было вызначэнне месца яго ажыццяўлення. У адной з версій меркавалася, што забойства і расчляненне адбыліся на кватэры аднаго з дамоў вялікіх жылых масіваў, ля якіх і знойдзены часткі цела загінуўшага. На лагічнасць такога меркавання ўказвалі многія фактары і дэталі злачынства, у тым ліку і знойдзеная ў адным з кантэйнераў газета з напісанай лічбай. Менавіта так размашыста прастаўляюць іх у аддзяленнях сувязі на пастаўляемай адрасатам карэспандэнцыі. Так у поле аператыўнага пошуку трапіў нумар кватэры, у якой адбылося злачынства. Версія набыла канкрэтны накірунак, які і вывеў сышчыкаў на нейкага грамадзяніна Б., і даў падставы для агляду яго кватэры як мяркуемага месца забойства. Але вось няўдача: у кватэры нядаўна быў праведзены рамонт. Як жа вызначыць сляды злачынства.

Цяпер усё залежала ад майстэрства прафесіяналаў, ад іх умення і кампетэнцыі. І таму, акрамя крыміналістаў, да агляду былі запрошаны эксперты-біёлагі С.Яўмененка і А.Шымко.

— Ну што, пачнём, Сярожа, паціху, — падзадорыў прыяцеля Саша.

— Ды тут спяшацца трэба павольна, — разважна заўважыў той.

На тым і прыступілі да справы. Пільна даследавалі кожны сантыметр плошчы, кожную смяцінку ў кожнай шчыліне. І вось...

— Эўрыка!

— Так, напэўна...

У ванным пакоі эксперты наткнуліся на два малюсенькіх, велічынёй з галоўку шпількі, кавалачкі рэчыва. Эксперты на аснове праведзенага тут жа папярэдняга аналізу з упэўненасцю заявілі:

— У знойдзеных кавалачках ёсць кроў.

Гэта было пачаткам на шляху да ісціны па справе. Далейшыя лабараторныя даследаванні пацвердзілі папярэднія вынікі. Было вызначана, што знойдзеныя кавалачкі з'яўляюцца фрагментамі мышачнай тканкі чалавека.

Такім чынам было даказана, што ў кватэры сапраўды адбылося злачынства. Справа заставалася за правядзеннем яшчэ некалькіх экспертыз, у прыватнасці, ці належаць даследаваныя кавалачкі мышачнай тканкі канкрэтнай асобе — забітаму. На гэта пытанне далі адказ спецыялісты лабараторыі геннай дактыласкапіі. Пошук на шляху да ісціны працягваўся. І прадаўжацца яму заўсёды. Бо ў пошуку на гэтым шляху і заключана сапраўдная сутнасць прафесіі эксперта.

**Сяргей ЦІВАНАЎ.**

